**ПАМЯЦЬ**

*Радзім ГАРЭЦКІ,*
*акадэмік НАН Беларусі і РАН*

# Мой любімы паэт і дарагі сябар

## *Сёння 40 дзён, як Беларусь страціла Генадзя Бураўкіна*



**Падпісанне дакументаў Усебеларускага з'езда за незалежнасць яго сустаршынямі. Справа налева — Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Анатоль Грыцкевіч, Радзім Гарэцкі. Мінск, жнівень 2000 года.**

Яшчэ зусім нядаўна, у снежні 2013 года, з Генадзем і яго мілай жоначкай Юляй адзначалі ў мяне на кватэры дзень народзінаў маёй Галі і мой (разам нам аж 150!). Вясёлыя, радасныя, нібы памаладзелыя, доўга сядзелі, успаміналі мінулае, абмяркоўвалі сучаснасць і будучыню Беларусі. Генадзь Мікалаевіч шчыра дзяліўся падзеямі свайго цікавага жыцця. Распавёў, як падчас вайны карнікі і паліцаі загналі жыхароў яго роднай вёскі Шуляціна ў Расонскім раёне ў лазню і хацелі спаліць. Нечакана ўжо сівы немец зламаў запасныя дзверы з другога боку лазні, і яны змаглі ўцячы ў лес. З таго часу Генадзь зразумеў, што паўсюль ёсць "людзі і звяры", а жыццё людзей бачыў шматкаляровымі, адчуваў разнастайнасць у чалавечай сутнасці. Гэтае тонкае адчуванне людзей, прыроды, роднай краіны ў яго ад маці, ад Бога, ад роднай зямелькі.

Гаварыў пра студэнцкія гады, сяброўства з тымі, з кім некалі вучыўся на філалагічным факультэце БДУ, асабліва з Рыгорам Барадуліным. І пра сваю хваробу (сухоты), перанесеную той парой. З гумарам Юля і Генадзь успаміналі сваё вяселле, калі маці Юлі катэгарычна была супраць такога "вясковага" зяця, але каханне перамагло, і Юля збегла з дому праз акно да свайго любага. Стварылася выдатная сям'я, у якой цудоўныя сын Аляксей, дачка Святлана і чацвёра ўнукаў.

Потым была праца ў газетах, у тым ліку ў "ЛіМе". У гэты час Генадзь Бураўкін разам з Анатолем Вярцінскім (а пазней і з Нілам Гілевічам) баранілі Васіля Быкава ад несправядлівай крытыкі за яго аповесць "Мёртвым не баліць", сабраўшы каля шасці дзясяткаў подпісаў вядомых пісьменнікаў пад зваротам у ЦК кампартыі Беларусі. Бураўкіна ледзь не выключылі з партыі, але нечакана Пётр Машэраў і тагачасны галоўны рэдактар "Праўды" Міхаіл Зімянін прапанавалі яму быць карэспандэнтам галоўнай газеты ў СССР, хаця з ЦК КПБ быў ліст супраць такога "агалцелага нацыяналіста і антысаветчыка". Як заўсёды ў сваім жыцці, і на гэтай пасадзе Генадзь Мікалаевіч імкнуўся зрабіць карыснае для сваёй Бацькаўшчыны. Прынамсі, дабіўся, каб на старонкі "Праўды" трапіў матэрыял Лявона Баразны і Зянона Пазьняка ў абарону старой Нямігі — з прапановай зрабіць культурна-экскурсійны куток Мінска, а таксама супраць пагрозы разбурэння будынка тэатра імя Янкі Купалы.

У 1972 годзе Г.Бураўкін пайшоў на пасаду галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць", у якім друкаваў творы В.Быкава, У.Караткевіча і ўпершыню — лісты з фронту Леаніда Гарэцкага (1972, №9). У 1978 годзе П.Машэраў прапанаваў яму ўзначаліць Беларускае радыё і тэлебачанне, дзе Бураўкін працаваў цягам 12 гадоў і зрабіў гэтыя сродкі масавай інфармацыі па-сапраўднаму нацыянальнымі. А Беларускае тэлебачанне ў тыя часы лічылася адным з найлепшых у Савецкім Саюзе. Цікава апавядаў пра Пятра Міронавіча, які ўвесь час яго падтрымліваў, давяраў і аднойчы сказаў: "Я не магу падтрымаць цябе ў справе беларушчыны афіцыйна з трыбуны, бо мяне тут жа здымуць. Але ты рабі справу. Чыноўнікі ведаюць, што ў цябе за спінай стаю я, і яны не асмеляцца табе замінаць". Машэраў, канешне, рабіў тое, што яму казалі з Масквы, але ён дапамог стварыць "Хатынь", паставіць помнікі Купалу і Коласу ў Мінску, падтрымліваў творчую інтэлігенцыю.

Паколькі ўжо ў часы перабудовы на тэлебачанні і радыё нам паказвалі "занадта" шмат праўды пра краіну, у тым ліку пра БНФ, дэманстрацыі, давалі слова З.Пазьняку і іншым апазіцыянерам, урадавыя чыноўнікі вырашылі пазбавіцца ад Г.Бураўкіна, паслаўшы яго ў "ганаровую ссылку": прызначылі прадстаўніком Беларусі пры ААН у Нью-Ёрку (1990—1994 гады), дзе ён быў і ў час БССР, і затым на пачатку незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Хаця ведалі мы адзін пра аднаго даўно, але асабіста пазнаёміліся пасля яго вяртання ў Мінск: сустрэліся ў Драздах, калі амбасада Францыі адзначала Дзень незалежнасці гэтай краіны. Мы адразу адчулі ўзаемную сімпатыю, перайшлі на "ты" і пасябравалі.

Мне даводзілася быць разам з Генадзем Бураўкіным на многіх літаратурных і іншых сустрэчах, пасяджэннях (асабліва часта — у Таварыстве беларускай мовы, старшынёй якога ён быў у самыя цяжкія гады), Рады беларускай інтэлігенцыі, Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"... Уражвала яго актыўнасць, прынцыповасць, красамоўнасць выступленняў. У творах і грамадскім жыцці ён заўсёды цвёрда стаяў на баку праўды, на пазіцыі сумленнасці і справядлівасці, не быў абыякавым, а яго выбуховыя пярэчанні і рэзкая крытыка ў бок каго б там ні было ішлі ад сэрца і таму былі нязлыя, справядлівыя. Сам ён быў добразычлівы і адыходлівы. Г.Бураўкін актыўна ўдзельнічаў у жыцці Саюза беларускіх пісьменнікаў як сябра Рады, у Грамадскай радзе тэлеканала "Белсат", ПЭН-клуба Беларусі.

Незвычайныя арганізацыйныя здольнасці паэта і грамадскага дзеяча я добра адчуў, калі разам з ім, Рыгорам Барадуліным і Анатолем Грыцкевічам быў сустаршынёй Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага з'езда за незалежнасць (2000 г.). Тады была вялікая небяспека аб'яднання Беларусі і Расіі і поўнай страты суверэнітэту краіны. Галоўным маторам у нашым Аргкамітэце быў менавіта Генадзь Бураўкін.

Адзін з самых блізкіх сяброў Васіля Быкава, Бураўкін праз год пасля смерці вялікага пісьменніка і патрыёта Беларусі выдаў кнігу ўспамінаў "Наш Быкаў" (2004). Я быў вельмі ўдзячны, што ён запрасіў і мяне даць свае ўспаміны.

Запомнілася, як адзначалі 70-годдзе Генадзя ў перапоўненай зале Палаца мастацтваў, а 75-годдзе — у маленькім памяшканні галерэі "Ў". Але і тады, і тады было надзвычай цёпла, душэўна, прасветлена. Усе выказвалі падзяку за цудоўную паэзію, усю літаратурную дзейнасць, за мужнасць і непахісную грамадзянскую пазіцыю на шляху нацыянальнага адраджэння Бацькаўшчыны. Толькі ўладныя структуры і падначаленыя ім газеты, часопісы, радыё і тэлебачанне "не заўважылі" юбіляра, затое кіраўнік дзяржавы ў гэтыя дні не забыўся павіншаваць аднаго расійскага артыста.

Генадзь Бураўкін — адзін з самых выдатных нашых паэтаўлірыкаў. Усё, што ён пісаў, прайшло праз яго сэрца. Бліскучы журналіст, публіцыст, майстар перакладу, ён быў цалкам адданы беларушчыне, горача любіў сваю Бацькаўшчыну, свой народ і яго цудоўную мілагучную мову, з замілаваннем апяваў беларускую прыроду, маляўнічыя краявіды. Яго паэзія напоўнена ўнутранай мелодыкай, таму на яго вершы атрымалася шмат цудоўных песень ("Завіруха", "Зачараваная", "Конь незацугляны" і інш.), а яго "Калыханка" стала любімай для дзяцей і іх бацькоў. А якія мілагучныя песні на словы Г.Бураўкіна стварыў Зміцер Вайцюшкевіч у сваіх альбомах "Liryka" і "Варанок"!

Пазней, у канцы 2013 года, мы з радасцю сустракаліся з Генадзем у Музеі гісторыі беларускага кіно на праглядзе дакументальных фільмаў, прысвечаных выдатнаму этнамузыколагу Зінаідзе Мажэйка, вядомаму паэту і перакладчыку Валеру Стралко, на пасяджэннях ТБМ і Рады беларускай інтэлігенцыі, цёпла віншавалі адзін аднаго з Новым, 2014, годам...

...Нечакана ў студзені 2014 года пазваніла Юля, агаломшыла паведамленнем: Генадзь у вельмі дрэнным стане апынуўся ў бальніцы з жудасным дыягназам — анкалогія. Пачалася мужная барацьба за жыццё. Побач неадлучна былі Юля, Аляксей, Святлана, сябры. Генадзь Мікалаевіч здолеў разам з Юляй даць інтэрв'ю ў сувязі са смерцю свайго даўняга сябра — Рыгора Барадуліна, якога лічыў выдатнейшым беларускім паэтам. Ён прадчуваў свой сыход. 14 сакавіка Юля дазволіла наведаць Генадзя. Мы з жонкай Галяй стараліся ўсяляк падбадзёрыць цяжка хворага, бо не гублялі надзеі на лепшае самі. Генадзь з цяжкасцю сеў у ложку, і мы яшчэ пра многае пагаманілі. У яго вачах засвяцілася жаданне на пачатку лета зноў трапіць на сваю любімую дачу, пабачыць лес, пачуць галасы птушак. І праўда, на нейкі час яму стала лягчэй, нават сам без дапамогі ўстаў, зрабіў некалькі крокаў па пакоі. 21 сакавіка яго скаланула бяда: на 101-м годзе памерла маці паэта Феадосія Бураўкіна. А ў дваццатыя дні красавіка ў яго пачаліся дзічэзныя болі, ён зноў трапіў у рэанімацыю...

Пра апошнія дні жыцця Генадзя Мікалаевіча, пра яго мужнасць і галоўнае жаданне распавёў Сяргей Шапран ("Новы час" за 6 чэрвеня 2014 года і "Народная Воля" за 13 чэрвеня гэтага года). Паэт папрасіў сваіх сяброў падрыхтаваць яго паэтычную кнігу — "чарговую, а не пасмяротную" — і даў ёй назву "Нагаварыцца з зоркамі". За тры дні да смерці ён з велічэзнай радасцю змог патрымаць сваю апошнюю кнігу. Уладзімір Някляеў сказаў: "Гэта было Вялікае Супакаенне, што жыццё пражыў, як належыць. Зрабіў у ім, што мог".

26 мая патэлефанавала Юля: Генадзь запрашае мяне і Галю зноў наведацца, каб развітацца... Схуднелы твар быў светлы, вочы чыстыя, але не свяціліся, як раней, жыццём. Рукі халодныя, бледныя. Ён ужо з цяжкасцю гаварыў, успамінаючы майго бацьку, наша сяброўства. Перадаў мне свой апошні запавет, каб доўга жыў і рабіў не толькі за сябе, але і за яго дзеля росквіту Беларусі, каб стала яна па-сапраўднаму беларускай, вольнай, самастойнай, багатай: "Рабі нашу агульную справу далей". Потым раптам мовіў цвёрдым голасам: "Сядзем за стол, адзначым сустрэчу!" Юля дастала каньяк, разлілі па чарках, выпілі. Пацалаваліся. Сэрца маё ныла ад жалю і гора...

30 мая раніцай зноў па тэлефоне чую Юлю, яе роспачна-кароткае: "Памёр Генадзь!" У гэты ж дзень у мяне сарваўся рытм сэрца, яно білася ледзь-ледзь, і замест праводзінаў сябра ў апошні шлях 31 мая я трапіў у кардыялогію бальніцы. Думаў: "Ну вось, хутка зноў сустрэнемся з Генадзем недзе там, на небе". Але, відаць, маё сэрца ўзгадала яго запавет і ўсё ж неяк працягвае біцца. Наказ блізкага чалавека трэба выконваць...

Гартаю кнігі Генадзя Бураўкіна з цёплымі сяброўскімі аўтографамі, зноў і зноў атрымліваю сапраўдную асалоду. На адной з апошніх кніг ("Лісты да запатрабавання", 2010) значыцца: *"Мілым сябрам Радзіму і Галі Гарэцкім, без якіх мне было б сумна і самотна на гэтай зямлі, — ад шчырага сэрца".* Дарагі Генадзь, каб ведаў ты, як нам без цябе самотна і сумна! Усё больш упэўніваюся, што ты — даўно народны паэт, класік беларускай літаратуры, выдатны дзяржаўны і грамадскі дзеяч, адзін з лепшых у коле адраджэнскай нацыянальнай інтэлігенцыі. І застаешся з намі. Мы чуем цябе! Ты навечна ўвайшоў у беларускую гісторыю.

**ТЕНДЕНЦИИ**

## *Доходы падают, а оптимизм растет!*

*"Экономическое самочувствие" белорусов продолжает понижаться. К такому выводу пришли эксперты Независимого института социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ, Литва) по итогам национального опроса, проведенного в июне 2014 года.*

За последние три месяца соотношение тех, чье материальное положение улучшилось, к тем, у кого оно ухудшилось, снизилось с 10,1% против 25,2% в марте до 9,3% против 32,5% в июне.

Респонденты также отмечают снижение уровня реальных доходов, поэтому заявлениям первого лица государства о том, что девальвация белорусского рубля по итогам года не превысит 10%, доверяют только 30%, а не доверяют 56%.

Вновь возросло и количество белорусов, считающих, что экономика страны находится в кризисе. В марте такого мнения придерживались 54,6%, а противоположного мнения — 34,5%, сегодня же это соотношение составляет 57,7% против 30%.

Самыми острыми проблемами, стоящими сейчас перед Беларусью, участники опроса считают рост цен — 80%, обнищание населения — 42%, спад производства — 35,1%, безработицу — 25,2%.

Почти 60% считают, что в Беларуси люди живут хуже, чем в странах Запада, противоположного мнения придерживаются 31,2%.

Однако, отмечают эксперты НИСЭПИ, несмотря на преобладание негативных оценок реального положения дел, уровень оптимизма, с которым белорусы смотрят в будущее, "парадоксальным образом повышается".

Если в декабре 2013 года 35,9% респондентов считали, что "социально-экономическая ситуация в Беларуси в ближайшие годы ухудшится", то к июню эта цифра упала до 28,7%, а количество оптимистов повысилось, соответственно, с 12,5% до 28,6%.

Количество респондентов, считающих, что "в целом положение вещей в нашей стране развивается в правильном направлении", повысилось с 31,9% в декабре до 42,3% в июне, а высказавших противоположное мнение, соответственно, снизилось с 54,1% до 42,3%.

**ЗА РУЛЁМ!**

## Перасядзем на кітайскія Geely?

### *У Беларусі могуць увесці ліцэнзаванне імпарту легкавых аўтамабіляў і шын з-за межаў Мытнага саюза.*

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, адпаведны дакумент зараз распрацоўваецца ва ўрадзе. Фармальна ён накіраваны на абарону беларускіх вытворцаў — ААТ "Белшына" і кампаніі "БелДжы", якая ў партнёрстве з аднайменнай кітайскай кампаніяй вырабляе легкавыя аўтамабілі Geely.

Эксперты б'юць трывогу: калі падобная норма будзе ўведзена, можа рэзка абмежавацца ўвоз аўтамабіляў у краіну, а бюджэт недаатрымае падаткі. Член праўлення Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі **Сяргей Варывода** так пракаментаваў магчымае новаўвядзенне:

*— Урад спрабуе вырашыць задачу па пераарыентацыі ўнутранага попыту на ўнутранага вытворцу. Або ў крайнім выпадку вытворцаў Мытнага саюза. Але, вырашаючы лакальную праблему загрузкі вытворчых магутнасцяў пары-тройкі прамысловых прадпрыемстваў, мы рызыкуем страціць значна больш у маштабах усёй эканомікі. Калі ж казаць пра рынак легкавых аўтамабіляў, то наўрад ці ідэя падтрымкі ўласнай вытворчасці кітайскіх аўтамабіляў Geely і Zotye з нізкім даданым коштам вартая такіх страт.*

*Святое месца пустое не бывае, і пустыя аўтасалоны беларускіх дылераў пераарыентуюць попыт на ўвоз "б/у" аўтамабіляў і новых аўтамабіляў, набытых пераважна ў аўтасалонах Расійскай Федэрацыі. Ці нехта думае, што беларус далей Барысава не паедзе? Як паказвае статыстыка, паедзе — і яшчэ як!*

*Гэта значыць дылеры застануцца без ліцэнзій і аўтамабіляў для продажу. Іх супрацоўнікі — без працы або без зарплаты. Бюджэт недаатрымае падаткі. Затое грамадзяне спраўна будуць вывозіць валюту ў суседнія краіны і карміць грамадзян іншай краіны.*

*А якое поле для карупцыі і самавольства! Паводле якіх крытэрыяў упаўнаважаны орган плануе ацэньваць "абгрунтаванне эканамічнай і тэхнічнай мэтазгоднасці ўвозу імпартнай тэхнікі"?*

Дарэчы, не так даўно кампанія "БелДжы" распаўсюдзіла афіцыйныя дадзеныя аб поспехах на беларускім рынку ў 2014 годзе. Як рапартавала кампанія, за студзень—май "БелДжы" вырвалася ў чацвёрку лідараў па продажах новых машын у нашай краіне. Пры гэтым палову аўтамабіляў куплялі шараговыя беларусы, і толькі 45% — арганізацыі. Здавалася б, лагічна ўзнікае пытанне: калі кітайскія аўто, сабраныя ў Беларусі, карыстаюцца такім попытам у насельніцтва, то навошта ствараць ім канкурэнтныя перавагі, тым больш што яны могуць негатыўна адбіцца на бюджэце краіны? Адказ, магчыма, крыецца ў словах Аляксандра Лукашэнкі, які ў студзені гэтага года так адазваўся аб Geely: *"Аўтамабіль добры, ён карыстаецца попытам. Значыць, трэба яго вырабляць і прасоўваць. Больш за тое, нямала нашых буйных прадпрыемстваў атрымліваюць заказы на вытворчасць камплектуючых. Таму гэта вельмі важны навукаёмісты інавацыйны праект, і мы яго абавязкова павінны рэалізаваць".*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**ТЕХНОЛОГИИ**

## *Трансгенный картофель сожгут в крематории*

### *В Беларуси будут впервые проведены полевые испытания трансгенного картофеля.*

Как сообщает пресс-служба Минприроды, в закрытой системе в лаборатории молекулярной генетики ГНУ "Институт генетики и цитологии НАН Беларуси" созданы линии растений картофеля с геном Cry3aM на основе сорта белорусской селекции Скарб, проявляющие инсектицидные свойства по отношению к колорадскому жуку. В течение 2011—2013 годов генетически измененные растения картофеля прошли первый этап исследований — испытания в лаборатории и теплице, в ходе которых оценено влияние трансгенных растений на флору, фауну и здоровье человека по следующим аспектам: токсичность, аллергенность, инвазивность, перенос генов, возможность влияния на организмы-мишени — и другое, которое оценивается как отсутствующее.

Теперь требуется проведение полевых испытаний на специально оборудованном опытном поле. В Беларуси таких испытаний до настоящего времени не проводилось.

Испытания трансгенного картофеля, по информации Минприроды, будут проводиться на специально оборудованном опытном поле, которое имеет ограждение и камеры круглосуточного слежения. Доступ посторонних лиц на это поле будет категорически запрещен. После того как вегетационный период исследуемого картофеля будет завершен, вся наземная часть растений будет сожжена в крематории, а клубни растений будут полностью извлечены из почвы и использованы только для научных исследований. Кроме того, участок земли, где росли растения, будет перепахан, также будет осуществлен мониторинг животного и растительного мира в радиусе 300 метров от опытного поля.

**Вера ВИР.**

**АКЦЫЯ**

## *Пакаштавалі «рабочы хлеб»*

Амаль 100 офіс-менеджараў вытворчага аб'яднання "Беларуснафта" ў мінулыя выхадныя выйшлі на працу на 25 станцый фірменнай сеткі прадпрыемства.

Кіраўнікі і вядучыя спецыялісты працавалі касірамі, супрацоўнікамі кафетэрыяў, паліваЗапраўшчыкамі, аператарамі нафтабаз. Напрыклад, дырэктар РУП "Беларуснафта-Гомельаблнафтапрадукт" Юрый Кукушкін паспрабаваў свае сілы ў якасці палівазапраўшчыка на АЗС №77, начальнік упраўлення цэнтральнага апарата кампаніі Юрый Ананчанка працаваў аператарам па водпуску нафтапрадуктаў на Наваполацкай нафтабазе.

У кампаніі заяўляюць, што такое знаёмства з працоўнымі спецыяльнасцямі дазваляе лепш зразумець умовы, у якіх штодня працуе персанал АЗС, зразумець сітуацыі, у якія трапляюць кліенты станцый. У кампаніі плануюць зрабіць падобныя эксперыменты рэгулярнымі.

**ПОДСЧИТАЛИ**

# Сколько заработали компании белорусских олигархов?

Министерство финансов опубликовало отчет о результатах работы акционерных обществ и эмитентов облигаций. Журналисты изучили, сколько заработали компании белорусских олигархов в первом квартале нынешнего года.

Лидерами стали **Сергей Литвин** и **Владимир Василько.** Чистая прибыль принадлежащей им на паритетных началах компании "Евроторг" составила около 16 миллионов долларов.

Чистую прибыль получили два крупнейших предприятия, основным владельцем которых является **Александр Мошенский.** "Савушкин продукт" заработал 51 миллиард 674 миллиона рублей, или около 5 миллионов долларов.

Компания "Конте Спа" **Валентина Байко** заработала 62 миллиарда 787 миллионов рублей (больше 6 миллионов долларов), а недавно купленное ОАО "Брестский чулочный комбинат" сработало в минус 6 миллиардов 42 миллиона рублей.

Практически все предприятия, совладельцами или акционерами которых являются компании гродненского бизнесмена, сенатора **Андрея Павловского,** сработали в первом квартале с чистой прибылью. Например, его главная компания "Биоком" заработала 11,5 миллиона долларов. Напомним, что структуры Павловского являются миноритарными акционерами Волковысского ОАО "Беллакт" и ОАО "Щучинский МСЗ". Кстати, еще один актив — ОАО "Агрокомбинат "Скидельский" — получил убыток: минус 26 миллиардов 560 миллионов рублей.

"Трайпл" **Юрия Чижа** и **Владимира Япринцева,** согласно официальной статистике, заработал в первом квартале совсем не много — 3 миллиарда 623 миллиона рублей. Другие вложения бизнесменов и вовсе "минусовали". ОАО "Березовский КСИ" получил убыток 18 миллиардов 352 миллиона, ОАО "Минский завод игристых вин" — минус 6 миллиардов 452 миллиона, ОАО "Легавтотранс" — минус 108 миллионов.

Из компаний, к которым имеет отношение **Александр Шакутин,** прибыльно сработали ОАО "Амкодор-Унимод" (3 миллиарда 510 миллионов рублей), ОАО "Амкодор-Дзержинск" (1 миллиард 668 миллионов рублей) и ОАО "Туровский молочный комбинат" (2 миллиарда 204 миллиона рублей). Головная структура машиностроительной группы — ОАО "Управляющая компания холдинга "Амкодор" — получила чистый убыток в размере минус 23 миллиарда 324 миллиона рублей. С минусом завершили первый квартал 2014 года ОАО "Амкодор-Белвар" (минус 2 миллиарда 884 миллиона рублей), ОАО КЭЗ (минус 618 миллионов рублей), ОАО "Дзержинский мотороремонтный завод" (минус 46 миллионов рублей). Убыток получила еще одна компания Шакутина — "Спамаш" (минус 71 миллион рублей). Что касается присоединенных на днях к холдингу "Амкодор" кобринского "Гидромаша" и гомельского "Гидропривода", то первый был убыточен ("минус" 883 миллиона рублей), а второй заработал чистую прибыль в объеме 1 миллиард 663 миллиона рублей.

Оба представивших свою отчетность предприятия **Анатолия Тернавского** принесли бизнесмену убыток. ООО "Юнивест-М" сработало на минус 25 миллиардов 2 миллиона рублей, а ОАО "Смолевичский завод железобетонных изделий" — на минус 1 миллиард 364 миллиона рублей.

## *Для сведения*

Розничный проект Сергея Литвина, начинавшего в 1990-х годах с ларьков на минском железнодорожном вокзале, является самым крупным на белорусском рынке. Контролируемая им и его партнером Владимиром Василько сеть "Евроопт" охватывает практически все крупные населенные пункты страны.



В середине 2012 года Сергей Литвин и Владимир Василько стали первыми белорусскими ретейлерами, вышедшими на внешний рынок. Они купили небольшую сеть "Сота" в Смоленске, на базе которой началось развитие российского розничного проекта под брендом "Евроторг". В конце 2013 года ее магазины располагались в Смоленской, Брянской и Московской областях, а также в Москве. Летом 2013 года владельцы "Евроторга" вместе с литовским партнером открыли первые магазины сети Fresh market в Литве — в Вильнюсе, Каунасе и Алитусе. Тесный контакт с партнером в этом проекте — компанией Ipsun — позволил "Евроторгу" войти в число лидеров по поставкам фруктов на белорусский рынок.

С ПОЗИЦИИ ПРОСТОГО ЧЕЛОВЕКА

# Национальная идея — построение государства новой общественной формации

Всеми признано, что национальная идея должна объединять общество в стремлении к определенной цели. Отсутствие идеи порождает внутренний разброд и делает страну уязвимой по отношению к внешним воздействиям.

Рассматриваются различные варианты национальной идеи.

Чисто экономическое обогащение, как это предлагается сверху, понятно и привлекательно для населения, но этот процесс не имеет логического завершения, а жажда наживы неизбежно сопровождается разъединением людей, приводя ко все большей растрате природных ресурсов.

Идеологические взгляды отражают большой спектр настроений в обществе и не создают общую базу для их сторонников. Разногласия наблюдаются в политике, философии и религии. Попытки нахождения компромиссов не дают ощутимых результатов.

Такое наиболее нейтральное понятие, как культура, ограничивается зоной фольклора, все больше сдавая позиции под напором глобализации. Обращение к истории и воспитание на ее базе патриотизма как основной идеи наталкивается на различное понимание ряда исторических событий, когда объективность приносится в жертву политическим или экономическим выгодам.

Все это приводит к осознанию, что единственным решением может быть только задача построения государства новой общественной формации. Этому способствует то, что у нас сейчас последняя стадия капитализма — госкапитализм и закономерен переход к новой стадии развития. Новая система должна обеспечить более высокий уровень реализации человеческих устремлений к лучшему будущему. Название здесь не будет играть особой роли. Вместо дискредитировавших себя социализма и коммунизма можно использовать термин "социально ориентированное общество". В набор его основных характеристик может входить недопущение частного владения землей или использования финансовых средств для получения доходов за счет чужого труда.

В тесной связи с национальной идеей находится определение нации и народа. В Беларуси есть различные нации, то есть вся масса народонаселения состоит из отдельных национальных групп различной численности. Языки двух групп стали нашими государственными языками. Такое раздробление создает определенные трудности в выработке общего подхода к целям развития. Еще в Библии сообщалось, что Бог помешал строительству Вавилонской башни, наделив группы населения различными языками, чтобы они не понимали друг друга. Международная практика подтверждает такое положение со все большей убедительностью.

Для определения национальной идеи предлагаю следующую тактическую схему:

— возможные варианты национальной идеи каждый желающий посылает в комиссию;

— комиссия создается из самых заслуженных людей Беларуси;

— отобранные варианты национальной идеи подаются отдельным списком вместе со списком кандидатов на пост президента Республики Беларусь в 2015 году.

Национальная идея должна быть простой и понятной каждому гражданину и должна быть сформулирована и предложена снизу, а не разработана теоретиками и мудрецами. Эту мысль подтверждает ответ Института философии НАН Беларуси (копию письма прилагаем)

**Б.А.ЕСИПОВИЧ,**
**Э.Г.КУНИЦКИЙ.**

С ПОЗИЦИИ УЧЕНЫХ

# Не все так просто...

По поручению дирекции Института философии Национальной академии наук Беларуси я ознакомился с представленными Вами материалами и хочу поделиться своими соображениями по поводу поднимаемых Вами вопросов, касающихся проблем мирового общественного развития и жизни нашего государства.

1.Поднимаемые Вами проблемы достаточно актуальны в силу своей социально-практической ориентированности — заостренности на осмыслении "болевых точек" нашего общества. Они интересны и в научном плане. И не столь просты для понимания, как это может показаться на первый взгляд.

Прежде всего отметим то, что все они не остаются вне поля зрения отечественных ученых — системно исследуются научными сотрудниками академических институтов социально-гуманитарного профиля, профессорско-преподавательскими кадрами Академии управления при Президенте Республики Беларусь и других белорусских вузов, сотрудниками Информационно-аналитического центра при Президенте Республики Беларусь и других научно-исследовательских учреждений, что подтверждается многочисленными публикациями. С ними можно ознакомиться в Национальной библиотеке Беларуси.

2.В Ваших материалах есть отдельные положения дискуссионного характера, с которыми мы не можем согласиться. Относительно национальной идеи. Мы не отрицаем позитивной значимости национальной идеи для консолидации нации. Но, с другой стороны, ее не следует абсолютизировать, особенно в многонациональных государствах. А мононациональных государств, как Вам известно, в мире нет. Абсолютизация национальной идеи, подчеркивание исключительных качеств одной нации по отношению к другим неизбежно ведет к конфронтации на межэтнической почве. Примеров тому огромное множество. Это и Россия, и Молдова, и Югославия, и Канада, и Испания. Да и Беларусь в 1990-е годы столкнулась с подобной проблемой.

В связи с этим считаем нужным обратить особое внимание на консолидирующий потенциал идеологии государства, которая может быть представлена как своеобразная программа его жизни на ближайшую и отдаленную перспективы. В этом направлении в Беларуси уже много сделано.

Мы не можем согласиться и с таким тезисом: "В Советском Союзе существовала национальная идея построения коммунистического общества, но она была надуманной и неосуществимой". Несомненно, в Советском Союзе была программа построения коммунистического общества. И не одна. Была программа, разработанная еще Лениным. Была программа Сталина. Были программы Хрущева, Брежнева и, наконец, программа "обновления социализма" Андропова, программа "социализма с человеческим лицом" Горбачева. Результаты всех этих программ достаточно хорошо известны. Известен и "разброс мнений" ученых относительно практической стороны построения социализма в одной отдельно взятой стране.

В Советском Союзе уделялось огромное внимание не национальной идее, а практическому разрешению национального вопроса, "доставшегося по наследству" от царской России. Были ошибки, были и достижения. Во всяком случае, именно за годы советской власти многие этносы СССР впервые обрели письменность, получили образование, достигли признанных во всем мире высот в области науки и культуры.

Мы не можем разделить и следующий Ваш тезис: "Такой общественный строй может быть определен как социализм, а его построение может быть принято в качестве национальной идеи". Если говорить об учении Маркса о социализме, то в нем таким образом решен вопрос о нациях и национальных отношениях в будущем коммунистическом обществе. Марксизм разрабатывался как интернациональное учение, и построение нового гуманного общества было связано с интернациональной борьбой рабочего класса — главного субъекта этого учения.

Относительно путей и практических результатов "построения социализма в СССР". По этой проблеме написаны горы книг — научных и ненаучных. Хотел бы обратить Ваше внимание лишь на то, что при осмыслении этого вопроса надо подходить конкретно-исторически — во всяком случае, учитывая хотя бы тот уровень экономического развития, на котором находилась дореволюционная Россия, а также масштабность задач, которые предстояло ей решить в столь сжатый срок в 1920—1930-е годы для обеспечения жизненности государства.

И еще один момент, о котором нельзя не сказать. В представленных Вами материалах порой соединены воедино совершенно разные подходы. Это касается роли государственных институтов, характеристики социализма и коммунистического общества, демократии, свободы и др.

3.Мы признательны Вам за Вашу активную жизненную позицию, Ваше искреннее стремление осмыслить современные социальные реалии и помочь нашему государству занять достойное место в мире в XXI веке.

**С уважением и самыми добрыми пожеланиями —**

**Т.И.АДУЛО,**
**заведующий Центром социально-философских и антропологических исследований ГНУ "Институт философии НАН Беларуси", доктор философских наук, профессор.**

СЯМЕЙНЫ АРХІЎ

# Падарунак дзеду ад унука




Гэты партрэт мой сын намаляваў у першы год пасля таго, як А.Р.Лукашэнку абралі прэзідэнтам.

У той час яго партрэты яшчэ не штампавалі і не вешалі ў кабінетах начальнікаў. А вось у майго бацькі быў. Падарунак ад унука.

Шмат часу прайшло з той пары. Даўно ўжо няма дзеда. 10 гадоў няма і ўнука. А гэты партрэт застаўся як напамінак пра надзеі і захапленні простых людзей. Вядома ж, калі б яны сёння былі жывыя, магчыма, былі б і іншыя ўяўленні пра таго ці іншага палітычнага дзеяча.

**Валянціна ПАЖЫЛОВА.**

*г.Светлагорск.*

ИЗ ПИСЬМА

## *Волнующие вопросы*

Скажите, пожалуйста, почему и до каких пор в участковые и другие избирательные комиссии будут входить только назначенцы от власти? Фактически они определяют результаты выборов. И пока комиссии будут формироваться таким образом, демократических, свободных, прозрачных выборов у нас не будет. В комиссии должны входить представители кандидатов в депутаты, другие люди, не подконтрольные власти.

И еще. Сколько бы времени ни прошло после исчезновения Ю.Захаренко, В.Гончара, А.Красовского, Д.Завадского, от властей нужно требовать ответа на вопрос, кто же расправился с ними. Даже причина смерти бомжа должна быть установлена, а тут лишили жизни таких известных людей...

**Николай ГАНКЕВИЧ.**

*г.Орша.*

МНЕНИЕ

## *Вернуть исторические реликвии!*

Давно пора давить на Москву, Киев, Варшаву с требованием возвращения белорусских национальных ценностей, насильственно захваченных и вывезенных из Несвижа, Вильно, других наших городов, из замков Радзивиллов, Сапегов, Хаткевичей... Места нахождения многих белорусских ценностей известны.

Исторические реликвии должны быть возвращены на родину. Будущие поколения не простят первому-второму поколениям свободной Беларуси за пустую трату времени вместо серьезной борьбы за правдивую тысячелетнюю историю, которую творили наши предки.

**Веслав ЛЕМЕШ.**

*Минск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *Замест паляндвіцы — зубы на паліцы*

**У некаторых беларускіх крамах амаль знікла свініна. А тая, што яшчэ ёсць, стала неймаверна дарагой. Ці не таму прэзідэнт нядаўна выказаўся, што беларусам шкодна есці бульбу з мясам, трэба "налягаць" на селядцы?**

*І ў ціхай вёсцы, і ў сталіцы*
*У крамах мяса знік і след.*
*Ну хоць ты зубы на паліцы*
*Кладзі, калі не траваед.*
*Аднак жа ведаем цяпер мы*
*(Улада шле пасыл такі):*
*Будуюцца паўсюдна фермы,*
*Квітнеюць аграгарадкі.*
*Даводзяць нам тэлепраграмы*
*І велькаможныя чыны:*
*"Нічога, што пустыя крамы.*
*Затое ў нас няма вайны!"*
*І хоць жывём нібы пад прасам,*
*Свой шлях мы пройдзем да канца.*
*І будзе бульба ў нас без мяса,*
*І будзе хлеб без селядца.*

## *Ні ў ляску, ні ў садку не пачуем «ку-ку»*

**Арнітолагі занепакоены: беларускія зязюлі адлятаюць у Афрыку і адтуль чамусьці не хочуць вяртацца...**

*Зусім падобна, што мінулі*
*Часіны тыя назаўжды,*
*Калі прарочыцы-зязюлі*
*Для нас адлічвалі гады.*
*Ні ў ясны дзень, ні ў вечар волкі*
*Не прагучыць для нас "ку-ку",*
*І мы не будзем ведаць, колькі*
*Жыць засталося на вяку.*
*Чаму ж такі самотны вырак?*
*Чаму замоўклі лес і сад?*
*Ад нас ляцяць зязюлі ў вырай*
*І не вяртаюцца назад.*
*Не вабяць нашыя дубровы,*
*Не цешаць пушчы і гаі,*
*Хоць іх пакуль не бэсцяць совы,*
*Пакуль не ганьбяць салаўі,*
*Хоць і абшары, і прасторы*
*Не анямелыя пакуль.*
*Але шкада, што ў гэтым хоры*
*Не будзе галасоў зязюль.*
*І сумна мне, засведчыць Неба,*
*Такая ява не ў руку:*
*Адным нябожчыкам не трэба*
*Чуць векавечнае "ку-ку".*

* * *

*Нам салаўі спявацьмуць трэлі...*
*Зязюль не ўчуем на дварэ,*
*Бо мы ўжо конча "абруселі",*
*А значыць, нацыя памрэ.*

## *Мужыкі — не маладзіцы — агаляюць ягадзіцы*

**У Баранавічах у більярдным клубе маладзён пасварыўся з дзяўчынай, абразіў яе, а потым павярнуўся і дэманстратыўна агаліў ягадзіцы.**

*Малюнак колісь быў нярэдкі,*
*Сам назіраў: цераз платы*
*Сварыліся-клялі суседкі —*
*Не закрываліся раты.*
*Стаяў над вёскай крык шалёны,*
*І гнеў жанчын паўдня не гас.*
*Калі ж канчаліся праклёны*
*І самых брудных слоў запас,*
*Адна другой*
*Дзве маладзіцы*
*Выказвалі пагарду так:*
*Задраўшы да спіны спадніцы,*
*Паказвалі бялюткасць ср...к.*
*Бывала, што-нішто сварыла*
*У вёсцы нашай мужыкоў.*
*Яны без слоў давалі ў рыла —*
*І так было спакон вякоў.*
*Ніколі не ўзнікалі свары,*
*Ніхто не кляў, ніхто не роў.*
*А лепшы аргумент — на твары:*
*Сіняк пад вокам, з носа кроў.*
*Аднак жа я прызнаць павінны:*
*Малюнак сёння не такі.*
*Цяпер за нейкія правіны*
*Кабецін лаюць дзецюкі,*
*Ім агаляюць ягадзіцы.*
*А ёсць і іншы перакос:*
*Не праклінаюць маладзіцы,*
*А без прадмовы б'юць у нос.*

* * *

*Ну гэтак смешна — аж да ўпаду:*
*Мужчыны ў нас праз аднаго*
*Цяпер паказваюць, што ззаду,*
*Бо спераду — няма чаго...*

ЧИТАТЕЛЬ ВОЗМУЩАЕТСЯ...

## *Провокация или тупость тех, кто готовил календарь?*

Здравствуйте, уважаемая редакция "Народной Воли"!

Постоянно подписываюсь на газету и читаю все материалы на сайте.

Решила направить вам один листок настольного календаря на 2014 год, которым пользуюсь на работе. Обратите внимание на дату — 27 января 2014 года. Прочитайте текст снизу. Что это? Такая у нас официальная политика? Провокация? Или просто обыкновенная тупость тех, кто готовил этот календарь? Он, кстати, напечатан в Молодечненской типографии "Победа".

**Наталья СТУДЕНТ.**

*г.Молодечно.*

ЯНВАРЬ
(СТУДЗЕНЬ, JANUARY)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| пн | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| вт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| чт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| пт | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| сб | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| вс | 5 | 12 | 19 | 26 | |

27
ПОНЕДЕЛЬНИК

Восход: 09.05 Восход: 05.31
Заход: 17.41 Заход: 14.00
Долгота дня: 08.36

*Международный день памяти жертв Холокост*

*Холокост - ложь, основанная на бездоказательных и мифических утверждениях.*
*Махмуд Ахмадинежад*

2014

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# Террористические замашки Ленина

***Встретился на днях с другом. Стали говорить о современной политике. Он сказал: "А знаешь, каким террористом был Владимир Ленин? Находясь в Швейцарии, он призывал молодежь в Петербурге обливать кислотой полицейских в толпе..."***

***Это действительно так? Или теперь модно катить бочки на вождя мирового пролетариата?***

**Никита МОРОЗОВ.**

*Брест.*

Уважаемый Никита Морозов!

Вот что по этому поводу написал известный российский историк **Анатолий Латышев,** который на протяжении многих лет занимался изучением биографии В.И.Ленина и был одним из немногих ученых, кто имел доступ к документам из секретного фонда главного большевистского лидера:

— Ленин из Швейцарии в 1905 году призывал молодежь в Петербурге обливать кислотой полицейских в толпе, лить с верхних этажей кипяток на солдат, использовать гвозди, чтобы увечить лошадей, забрасывать улицы "ручными бомбами". В качестве главы советского правительства Ленин рассылал по стране свои наказы. В Нижний Новгород пришла бумага следующего содержания: "Навести массовый террор, расстрелять и вывезти сотни проституток, спаивающих солдат, бывших офицеров... Ни минуты промедления". А как вам ленинский наказ в Саратов: "Расстрелять заговорщиков и колеблющихся, никого не спрашивая и не допуская идиотской волокиты"?

А.Латышев приводит и другие факты кровожадности Ленина.

— Особо жесткие приказы были по уничтожению соотечественников. Например, "сжечь Баку полностью, брать в тылу заложников, ставить их впереди наступавших частей красноармейцев, стрелять им в спины, посылать красных головорезов в районы, где действовали "зеленые", вешать под видом "зеленых" (мы потом на них и свалим) чиновников, богачей, попов, кулаков, помещиков. Выплачивать убийцам по 100 тысяч рублей..." Кстати, деньги за "тайно повешенного" (первые "ленинские премии") оказывались единственными премиальными в стране. А на Кавказ Ленин периодически отправлял телеграммы следующего содержания: "Перережем всех". Помните, как Троцкий и Свердлов уничтожали российское казачество? Ленин тогда оставался в стороне. Сейчас найдена официальная телеграмма вождя к Фрунзе по поводу "поголовного истребления казаков". А это знаменитое письмо Дзержинского вождю от 19 декабря 1919 года о содержащихся в плену около миллиона казаков? Ленин тогда наложил на него резолюцию: "Расстрелять всех до одного".

ВЗГЛЯД

## *Не утопит ли нас Путин?*

*Украина, Грузия и Молдова подписали соглашение о вступлении в Евросоюз, а мы держимся за Путина, как утопающий за соломинку. У него и своих проблем хватает, ему самому нужна соломинка. Не утопит ли он нас вместе с собой, со своим Союзным государством?*

**Владимир СТЕПАНИЩЕВ.**

*Витебск.*



АБСУРД!

## *Аперацыі без бальнічных бюлетэняў*

Божухна, якія чэргі ў дзяржаўных паліклініках! Каб узяць талон на прыём да профільнага доктара, людзям іншы раз даводзіцца падымацца з усходам сонца і выстаяць на нагах не адну гадзіну. Факт відавочны: без дапамогі прыватнай медыцыны праблема не вырашыцца.

А што з боку ўрада, таго ж Міністэрства аховы здароўя? Апошняе рашэнне — прыватныя медыцынскія цэнтры не будуць мець права на выдачу лісткоў непрацаздольнасці. Чаму? Маўляў, магчымы злоўжыванні, бюлетэні хворым могуць выдавацца за пэўныя ўзнагароджанні. А што, у дзяржаўных паліклініках гэта выключана?

Ці ж не абсурд, што праводзіць хірургічныя аперацыі прыватным медыцынскім цэнтрам дазволена, а выдаваць бюлетэні забаронена? Уявіце сітуацыю: чалавек прааперыраваўся ў адным месцы, а каб атрымаць бальнічны лісток, трэба ехаць за трыдзевяць зямель.

Падобна на тое, што беларускія чыноўнікі, якія лечацца ў розных спецустановах, адарваліся ад простых людзей, не ведаюць рэалій жыцця, а таму і прымаюць абсурдныя рашэнні.

**Маргарыта ШЛЯХТУНОВА.**

*Гомель.*

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

# Владимиру Двоскину — 75



Дитя послевоенных улиц и развалин, сын боевого офицера, бесстрашный в драке и надежный в дружбе — Владимир Двоскин сделал сам себя миллионером, соединяя левую перчатку, найденную в Гомеле, с правой перчаткой, найденной в Смоленске или в Туле, в кустах сирени за кинотеатром "Родина".

Конечно, это образное отражение посредничества между белорусскими стеклозаводами, карельскими лесхозами, вологодскими фермами, астраханскими рыбокоптильнями (с замечательным запахом!) я называю наугад, но суть его посредничества — соединять на благо жизни неожиданное, такое, что и в голову-то не придет!

Конечно, это творчество. Ну, скажем, гений Пушкина соединил два незнакомых и, казалось бы, несовместимых слова: наука счастья.

А ведь когда-нибудь науку счастья будут проходить в гуманитарных вузах.

Соединяя неожиданное, человек смеется ночью — от радости, его охватывает дрожь, восторг, он чувствует прилив сил, как в юности на соловьиной улице, на окраине Гомеля, Речицы...

Весной туда приедет Двоскин и, навестив свою учительницу, попросит ее принести ему воды.

Пока она заваривает чай, гость незаметно сунет под подушку прибавку к пенсии на десять лет вперед, подмигивая самому себе, как в детстве.

Первая книга, освященная экзархом Беларуси Филаретом, — "Звезда Вифлеема", свет православия в русской поэзии, прекрасно изданная, весь тираж подарен детскому приюту, — опять Владимир Двоскин...

То он издаст поэта Рыгора Бородулина, то оплатит долги другого непрактичного "дирижера днепровского майского хора лягушек", а между прочим деловые люди считают каждый рубль, но Двоскин знает, что вначале было не число, а Слово...

Поэзия теперь не в моде. И бескорыстие не в моде. Отзывчивость и совесть — архаизмы. И в этом смысле Двоскин старомоден.

Ну что еще сказать?

Да пожелать ему отменного здоровья!

И пусть соединяет рожь с хлебопекарней, леса со степью, детские приюты с добротой — до ста.

*Впереди — мимолетное лето,*
*полустанки, грибные дожди,*
*окна, полные теплого света.*
*Все, что было, —*
*еще впереди.*

**Игорь ШКЛЯРЕВСКИЙ,**
**лауреат Государственных премий СССР и РФ.**

# Цяпло сэрца



Разам з жонкай і дачкой.

9 ліпеня — дзень нараджэння Уладзіміра Двоскіна. Я пазнаёміўся з ім у 1996 годзе, калі мне было вельмі цяжка. Дапамагчы не было каму. У паветры ўжо згушчалася атмасфера рэферэндуму, і мяне, карэспандэнта апазіцыйнай "Белорусской деловой газеты", пазбягалі нават самыя блізкія сябры.

Мне далі нумар тэлефона і параілі пазваніць Уладзіміру Эдуардавічу. Двоскін сустрэўся са мной, бо паважаў чалавека, які даў мне ягоны нумар. Выслухаў. Абяцаў падумаць.

Я не ўмею размаўляць з бізнесменамі. У майго суразмоўцы былі пранізліва мудрыя вочы чалавека, які пражыў складанае жыццё. Ён быў на дваццаць пяць гадоў старэйшы за мяне. Думаю, я зрабіў на яго не вельмі прыемнае ўражанне.

Але Уладзімір Эдуардавіч дапамог.

І дапамагаў не толькі мне.

Дзякуючы яму змаглі выйсці ў свет аўтарскія анталогіі Міхася Скоблы "Краса і сіла" і "Галасы з-за небакраю" — два "справаздачныя" тамы беларускай паэзіі за XX стагоддзе. І калі Двоскіна пачалі палохаць — маўляў, могуць быць непрыемнасці, — ён шчыра здзівіўся:

— Але такія кнігі патрэбны. Каму перашкаджае паэзія?

Кожную нашу сустрэчу ён пачынаў з пытання пра стан здароўя Рыгора Барадуліна. Калі спатрэбіліся нейкія асаблівa дэфіцытныя лекі, з Масквы быў прысланы чалавек з пакетам. І толькі дзякуючы Уладзіміру Эдуардавічу выйшла кніга перапіскі Барадуліна з маці "Паслаў бы табе душу..." — кніга, пра якую Рыгор Іванавіч марыў. Кніга, якая стала ўнікальным помнікам сынавай любові. Радкі з яе новыя пакаленні беларусаў будуць завучваць на памяць. І хоць у побыце Двоскін не размаўляе па-беларуску, на святкаванні яго сямідзесяцігоддзя першы тост быў прамоўлены менавіта на беларускай мове — жонка юбіляра Даша, мінчанка, падкрэсліла, што гэта родная мова зямлі, на якой ён нарадзіўся. І віншавальныя радкі дзядзькі Рыгора сталі другім тостам — вядома ж, таксама беларускім.

Калісьці Двоскін, цяпер буйны расійскі бізнесмен, народжаны ў Беларусі, у Беларусі і працаваў — у будаўнічым трэсце. І калі ў перабудовачныя часы ён стварыў свой бізнес, то не забыў пра тых, з кім працаваў. Ветэраны таго будтрэста ведалі, што ёсць чалавек, які не пакіне іх у старасці сам-насам з хваробамі. Пры гэтым — нічога не патрабуючы ўзамен.

Двоскін разбіраецца ў тэатры і жывапісе, любіць класічную музыку — асабліва раманс. Ён ганарыцца, што сярод яго сяброў — спявачка Нані Брэгвадзэ, тэатральны рэжысёр Арсеній Сагальчык, кінарэжысёр Павел Лунгін, паэт Ігар Шклярэўскі. Ён памятае, якім уважлівым быў да яго, тады яшчэ зусім маладога хлопца, легендарны мінскі дысідэнт Кім Хадзееў. У яго выдатная памяць — і адчуванне сапраўднага. Гэта рэдкая рыса ў нашым наскрозь фальшывым свеце.

Уладзіміру Эдуардавічу — семдзесят пяць. Сёлета закончыла школу ягоная малодшая дачка Зіна. Закончыла на "выдатна". Мабыць, гэта найлепшы падарунак бацьку, чалавеку, які прывык дасягаць усяго цяжкай працай. Яго вочы цяплеюць, калі ён гаворыць пра сям'ю — пра жонку, дзяцей, унукаў. Яны — ягоная гордасць, ягоны працяг.

Але застаюцца не толькі дзеці і ўнукі. Застаецца памяць тых, каму чалавек дапамагае. Кнігі, якія пабачылі свет. Музыка, якая загучала дзякуючы яму. Застаецца цяпло сэрца. І дай Бог доўгіх гадоў Уладзіміру Эдуардавічу Двоскіну, каб гэтага цяпла, кніг, музыкі рабілася ўсё больш і больш!

**Аляксандр ФЯДУТА.**

ЗАПРАШЭННЕ

## Ноччу на спектакль

*11 ліпеня адбудзецца начны паказ спектакля "Макбет" Уільяма Шэкспіра. На ўзбярэжжы Заходняй Дзвіны, на тэрыторыі Музея-сядзібы І.Я.Рэпіна "Здраўнёва", разгорнецца сусветна вядомая трагедыя ў выкананні акцёраў Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.*

Пастаноўшчык спектакля — мастацкі кіраўнік тэатра імя Якуба Коласа **Валерый Анісенка.** Для Валерыя Данілавіча гэта не першая пастаноўка пад адкрытым небам. У жніўні 1996 года спектакль "Макбет" быў паказаны на Эдынбургскім тэатральным фестывалі ў Шатландыі. А самы першы прэм'ерны паказ трагедыі "Макбет" Уільяма Шэкспіра адбыўся на ўкраінскім фестывалі "Мельпамена Таўрыі" — пад адкрытым небам на імправізаванай пляцоўцы. Англійская трагедыя ва ўкраінскім лесе на беларускай мове стала адной з выключных падзей фестывалю ў Херсоне.

*"Уявіце сабе: цёмныя сілуэты дрэў сядзібы Іллі Рэпіна "Здраўнёва", патаемныя гукі, прахалодныя павевы панадзвінскага ветру і месяц, які пражэктарам асвятляе тэатральную дзею..."* — расказваюць у тэатры пра спектакль.

У спектаклі заняты **Юрась Цвірка, Анжаліка Баркоўская, Ірына Цішкевіч, Георгій Лойка, Яўген Бераснёў, Яўген Лук'янаў, Валянцін Цвяткоў**, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь **Рыгор Шацько**.

Сёлета ўвесь тэатральны свет святкуе 450-годдзе з дня нараджэння **Уільяма Шэкспіра**. Тэатр імя Якуба Коласа прысвячае начны паказ трагедыі "Макбет" да гэтай знакавай падзеі.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ПРАЕКТ

## Пракаціць з ветрыкам

*У Беларусі зарэзерваваны калідор для стварэння высакахуткаснай чыгункі. На гэтых землях будаўніцтва забаронена.*

Пра гэта паведаміў міністр транспарту і камунікацый Беларусі **Анатоль Сівак.**

*"У перспектыве можа быць пабудавана высакахуткасная магістраль, якая будзе ісці праз Мінск і звяжа Маскву і Берлін. Нядаўна прагучала прапанова злучыць Мінск, Маскву і Астану, але гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі кітайскія спецыялісты будуць будаваць транскантынентальную дарогу ў напрамку Еўропы і гэты ўчастак стане яе састаўной часткай",* — сказаў кіраўнік ведамства.

Анатоль Сівак прывёў у прыклад высакахуткасную магістраль у Кітаі, дзе цягнікі рухаюцца па эстакадзе. *"Сказаць, што мы пабудуем дарогу ад Брэста да Мінска для цягнікоў з хуткасцю 300 км у гадзіну, нельга. Такога цяпер не будзе, таму што няма людзей, якія змогуць запоўніць падобны цягнік хоця б раз у дзень. Каб праект акупляўся, такіх цягнікоў трэба 10—20",* — патлумачыў міністр. У тым жа Кітаі, дадаў ён, адпаведныя цягнікі злучаюць мегаполісы і не маюць прыпынкаў у гарадах, дзе пражывае да 2 мільёнаў чалавек.

БУДЗЬЦЕ ГАТОВЫ!

## Пад прымусам

*Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Мінску прапрацуе пытанне аб спыненні ў сталіцы такога віду дзейнасці, як пасутачная здача кватэр. Пра гэта ў панядзелак на аператыўнай нарадзе ў Мінгарвыканкаме паведаміў начальнік ІМПЗ па Мінску* ***Уладзімір Лайкоў.***

*"Прадастаўленне месцаў для кароткатэрміновага пражывання — гэта від дзейнасці, які зжыў сябе, улічваючы колькасць гасцініц у горадзе. Акрамя таго, як толькі ў пад'ездзе з'яўляецца кватэра на суткі, адразу ж узнікае маса праблем, якія тычацца парушэння грамадскага парадку. Улічваючы ўсё гэта, інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах будзе выходзіць з прапановай аб спыненні ў Мінску такога віду дзейнасці, як здача кватэры на суткі",* — сказаў Уладзімір Лайкоў.

Старшыня Мінгарвыканкама **Мікалай Ладуцька** даручыў вывучыць гэтае пытанне і сумесна з упраўленнем жыллёвай палітыкі ўнесці адпаведныя прапановы ў Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

Пра тое, што пасутачную здачу кватэр могуць забараніць, упершыню загаварылі падчас чэмпіянату свету па хакеі. Бо нават падчас першынства запоўненасць мінскіх гатэляў не была поўнай. Цяпер дык і ўвогуле вечарамі няцяжка заўважыць, што ў большасці пабудаваных гасцініц свецяцца толькі па два-тры вокны. Такім чынам, забяспечыць гатэлі пастаяльцамі мінскія ўлады хочуць пры дапамозе прымусу.

ЛІКБЕЗ

## Змяніліся правілы накіравання грамадзян у ЛПП

*Набылі моц папраўкі ў закон, які рэгулюе правілы змяшчэння алкаголікаў у лячэбна-працоўныя прафілакторыі.*

Згодна з новаўвядзеннямі ў заканадаўства, ЛПП будуць выкарыстоўвацца "больш дэмакратычна". Цяпер суд можа ўжываць ці не ўжываць змяшчэнне ў ЛПП у дачыненні да чалавека, якога накіроўвае міліцыя. Апроч таго, з'явілася норма, якая дазваляе датэрмінова вызваліць чалавека з прафілакторыя за добрыя паводзіны.

Між тым самі ЛПП у Беларусі пакуль адмяняць не збіраюцца. Як мяркуюць у МУС, гэтыя ўстановы даюць магчымасць хаця б на некаторы час ізаляваць людзей, якія злоўжываюць алкаголем і робяцца небяспечнымі для сям'і і грамадства. У міліцыі ўпэўнены, што такая норма стрымлівае алкаголікаў ад здзяйснення цяжкіх злачынстваў.

БИЗНЕС НА ИСКУССТВЕ

# Между ремеслом и страстью

*Визит премьер-министра* ***Михаила Мясниковича*** *в частную художественную галерею* ***"Сядзіба Кастуся Качана"*** *в Новогрудке вызвал в творческой среде если не ажитацию, то уж точно легкий шорох надежды. Пока у нас частное предпринимательство в сфере культуры было задвинуто государственными структурами на задний план. А здесь, выходит, очевидный разворот? Тем более премьер сказал не без пафоса: "Развитие культуры не должно быть только государственной задачей, поэтому хотелось бы, чтобы частных картинных галерей и других подобных объектов было больше. Но такое могут создавать только люди с широкой душой, настоящие патриоты".*

*"Народная Воля" решила выяснить, сколько на данный момент частных художественных галерей в Минске?*

Очень немного. Во-первых, не все частники "доплыли" до нынешнего внезапного объявления тучных времен для изобразительного искусства. Некоторые художественные галереи элементарно разорились. Например, весьма респектабельный некогда **"Верхний Город"** на площади Свободы уступил место ресторану — увы! До него "скоропостижно скончались" галереи **"Золото", "Арт-Сядзіба", "Ад вучня — да майстра"** (остался только сайт)... Во-вторых, и среди тех 15, которые заявляют себя галереями, строгим требованиям международной ассоциации галеристов стран Европейского Союза отвечают лишь две — **"ЛаСандр-арт"** и **галерея "Ў".** Кроме того, что они последовательно ведут выставочную деятельность определенного направления, у этих галерей еще есть разрешение заниматься коммерцией, продажей картин. Что, собственно, и отличает настоящую галерею от просто выставочной площадки.

С другой стороны, в Минске есть четыре очень популярных художественных салона, которые тоже называют себя галереями. Это **"Мастацтва"** и **"Беларт"** — они принадлежат общественному объединению "Белорусский союз художников". **"Подземка"** — молодежная галерея, торгующая прикладными изделиями hand-made. А также **"Концепция"** — частный галерейный проект. Все четыре находятся в центре города (обязательное условие успеха), их признают своими точками белорусские художники, ну и не обходят стороной покупатели.

КОМПЕТЕНТНО

## Каковы перспективы частного галерейного дела в Беларуси?

*Лидия СТРАХ, директор и владелец галереи "Концепция":*

## «Заработать на искусстве трудно»

— У нас полторы тысячи художников, а галерей в столице мало, — *говорит* ***Лидия Ивановна***. — Очень мало. Их должно быть больше раз в пять. В следующем, 2015, году "Концепции" исполнится 10 лет. Открывая галерею, мы, честно говоря, шли ва-банк, были все шансы прогореть, художественный рынок и тогда, и теперь развит слабо. Но вот, как видите, работаем. Хотя, жаль, выкупить помещение размером 68 квадратных метров тогда, 10 лет назад, не хватило сил. Поэтому сейчас мы находимся под прессингом арендной платы: ежемесячно надо отдать государству 5 миллионов рублей плюс коммуналка. На улице Карла Маркса аренда в основном от 16 долларов за квадратный метр, но у нас есть маленькая скидка за то, что давно работаем, и за то, что галерея находится в подвале.

Государство к нам, арендаторам, подходит жестко: не заплатил за месяц — сразу санкции. Прошло три дня — иди на улицу. Так же, как и к остальным частникам, в галерею регулярно приходят проверяющие, вплоть до санстанции: а не текут ли у вас в подвальном помещении трубы, нет ли гнили? Но у нас сделан грамотный ремонт, как раз то, что нужно для картин: ни холодно, ни жарко.

Хотя скажу, что теперь открыть галерею легче, в смысле документов меньше. Но экономически дороже, нужен уставной фонд! У нас уставной фонд — мое имущество, раньше это было возможно. А теперь только деньги, государство хочет гарантий. И все службы платные: юридическая, пожарная... Чтобы получить их "добро", надо перечислить. Даже кассовый аппарат, который проверяют, не вскрыли ли мы его самовольно, и за это — заплати! А через три года — поменяй, купи новый. Государство не дремлет, за частником следит. Сейчас встали на очередь, чтобы в галерее работал банковский терминал.

Но если глобально, то мы никогда не испытывали противодействия ни со стороны властей, ни со стороны жителей дома, в котором располагаемся. Знаете, я как раз была на открытии "Сядзібы" Кости Качана в Новогрудке, даже подходила к министру культуры, чтобы представиться. А он говорит: "Я знаю вашу галерею!" Да, за время существования "Концепции" у нас прошло 165 выставок: Щемелев, Ксендзов, Суша, Костюченко... Сами видите, какие имена. Художникам нравится наша галерея, потому что никто их ни в чем не ограничивает.

Ну, а жители дома вообще довольны: на нашем месте запросто могла быть пивнушка. А к нам приходят красивые люди, даже иностранные послы. Ну и вход в галерею-магазин бесплатный, всегда можно просто прийти, посмотреть картины.

Продажи? Это самое главное, и это очень не просто. В месяц, чтобы покрыть все расходы, нам нужно заработать хотя бы 30 миллионов. Если галерея "Мастацтва", скажем, работает под эгидой Союза художников, им есть на кого опереться в критическом случае, то нам дотаций ждать неоткуда. Поэтому продажа картин — проблема номер один.

Покупателей с улицы приходит очень мало. Заработать на искусстве у нас трудно. Те, кто думает, что на картинах можно сделать деньги, ошибаются. Нет! Здесь больше вложишь...

Вот у нас была на площади Свободы галерея "Верхний город", ее открыл очень богатый человек. Разорился! Так что и машину продал, говорят. Я видела его ошибки, даже хотела лично поговорить. Представляете, он взял на работу красивых девочек, не имеющих абсолютно никакого понятия о живописи. То есть это были совершенно нейтральные люди, не представляющие, чем они занимаются, которые индифферентно сидели в зале под картинами. Спросишь, сколько стоит, кто автор, какая манера, — на все ответ: "Не знаю!" Люди без подготовки его и погубили. Так никогда картину не продашь. В залах должны сидеть искусствоведы.

А мы держимся, считаю, потому, что у нас три человека, включая бухгалтера, архиподготовлены. Мы, галеристы, работаем страсти ради. Вообще галерейное дело — это любовь, зависимость. Когда я вижу, что художник рвет в отчаянии, в сердцах свои работы, разуверившись в себе, я понимаю, какая задача стоит перед нами, искусствоведами: научить публику любить, понимать, нуждаться в искусстве. А для художников галереи нужны буквально как воздух, иначе они вымрут.

Как относится к нам конкретно Министерство культуры? Если честно, как к чужим. Лишь однажды мы были там на совещании, мы да галерея "Ў". Наш искусствовед выступила, чтобы попросить место под рекламу в городе, чтобы цена на нее была снижена, ведь пока и сапоги, и картины в одну цену! А картины в городе — великая задача, они жизненно необходимы и художнику, и обществу в целом, чтобы не оскотиниться. Реклама искусства должна быть не где придется, а в определенных профильных очагах, чтобы просматривалась система.

"Вы что?! — прозвучало прямо-таки гневно в ответ. — Вы денежки в карман, а мы вам должны?!" Откровенная ревность. Ну, мол, еще чего — частникам процветать!

Деньги... Если б министерские поинтересовались, то узнали бы, что ни в одной державе галереи не приносят баснословные барыши. Галереи — это культуртрегерство. Какие миллионы? Это в мировых гигантах Сотби, Кристис. А у нас зарплаты по 4 миллиона белорусских рублей — это ого, великое счастье, не каждый месяц! А сидеть надо с утра до ночи, и в субботу, в воскресенье выходим. А если позвонят, будем ждать покупателя и до 11 вечера.

Мы в "Концепции" выставляем и продаем весь срез современной живописи. Чтобы на каждое покупательское "хочу" было "пожалуйста", то есть наше предложение. К нам иногда приходят коллекционеры, ищут старую школу. Или из салона "Мастацтва" иногда даже могут прислать к нам покупателя: поищите, мол, у соседей. Дипломатический корпус порой заглядывает: украинцы, сербы, итальянцы, чехи, китайцы.

Галерея берет 30 процентов с гонорара — это общая практика. Но сейчас все хотят скидку, таково общее настроение. И мы вынуждены идти навстречу. По той цене, которая указана, работа никогда не продается.

К хоккейному чемпионату мы делали специальную подборку — пейзажи Минска, Витебска. Но гостей не было, нулевой вариант, не тот контингент приезжает на спортивное мероприятие. Мы обманулись в ожиданиях, хотя работали до 21.00.

*Лариса БОРТНИК, основатель, директор галереи «ЛаСандр-арт»:*

## «Хотите загубить идею — отправьте ее в Минкульт»

— Лично я скоро оставлю свой директорский пост, — *говорит Лариса.* — Это решение не под настроение, мне надо серьезно заняться здоровьем. Но наш спонсор и партнер Игорь Константинович Лайков, генеральный директор ООО "Мальвина Кампани", сказал, что будет продолжать галерейную деятельность и далее. Так что ищу себе замену. Это очень сложно. Требуется человек, который должен будет принять всю ответственность за предприятие: формировать выставочные планы, экспозиции. Потому что галерея — это живой организм.

Хотя нам повезло, компания "Мальвина" прикрывает нас со всех сторон: у них юристы, экономисты, любые трудности сразу разрешаются. У нас нет даже собственной бухгалтерии, в галерее только кассир-операционист, начальная документации.

Как завлечь покупателя? Только интересными выставками. Тема продаж очень сложная. Планировать ничего нельзя. Найти потенциальных покупателей трудно, прогнозу этот вопрос не поддается. В основном люди приходят к нам и смотрят. Планируют себе подарок и... все. На расставание с деньгами идут трудно. Хотя заглядывают коллекционеры. Они используют галерею как площадку информационную, особенно интересуются советской эпохой, спрашивают: "А этот у вас есть? А этот художник?" Но приобретают мало, потому что в основном обмениваются между собой картинами.



*Художник Валентин Губарев плодотворно сотрудничает с галерей "ЛаСандр-арт".*

Белорусские коллекционеры — люди очень не богатые. Они одержимы, любят искусство, но сказать, что богаты, — нет, ни в коем случае.

Богатые — совершенно другая категория. Приходят за картиной, когда уже построен особняк, там поставлена бытовая техника по высшему разряду. А потом человек вдруг хочет закрыть пустую стенку над камином: "Надо какое-нибудь пятно". Но их критерии отбора картин... Можно писать книги на эту тему. Это люди, как правило, с неразвитым художественным вкусом. Один посетитель, увидев вариацию Руслана Вашкевича на тему картины Валентина Серова "Похищение Европы", сказал: "Да вы что? Чтоб я в доме бычару повесил?" Ну, разве не весело? Но, думаю, что я заронила-таки в него художественное зерно...

Мы уже 5 лет участвуем в выставке-ярмарке частных галерей в Вильнюсе, которую учредила Международная ассоциация галеристов стран Европейского Союза. В 2009 году комиссия галеристов из Евросоюза приезжала в Минск и из всего списка существующих столичных галерей признала только две: "Ў" и "ЛаСандр-арт". Потому что когда мы говорим о галерее, то надо иметь в виду, что это художественный проект, который имеет свое конкретное направление в выставочной и коммерческой деятельности. А салоны-магазины обижаются...

О Минкульте скажу так. Однажды давала интервью на ТВ, расслабилась и сказала откровенно, а теперь повторяю вновь: "Если хотите загубить идею, отправьте ее в Министерство культуры". К сожалению, это печальное правило действует до сих пор... Хотя, правды ради, когда мы первый раз собирались в Вильнюс на ярмарку, из министерства позвонили и спросили, чем помочь. Мы попросили информационной поддержки.

Но от государства мы не имеем никаких льгот, работаем наравне с табачным киоском и винно-водочным магазином. Если бы наша галерея была зарегистрирована в творческом союзе — художников, дизайнеров, архитекторов, — тогда да. Но мы сразу стали на коммерческие рельсы: выставки с правом продажи. Бывало по-разному, но, конечно, галерея не прибыльное предприятие. "ЛаСандр-арт" — для красоты, удовольствия, статуса. Бывало, иногда картины приобретали госучреждения, но теперь покупать подарки за счет предприятий перестали — эту статью расходов организациям ограничили...

**Елена МОЛОЧКО.**

МАЗАІКА

## Пераможнае шэсце «Дынама»

*Лідар футбольнага чэмпіянату краіны мінскае "Дынама" атрымала шостую перамогу запар, абыграўшы ў 16-м туры "Гомель" — 1:0.*



У другім нядзельным матчы наваполацкі "Нафтан" з буйным лікам прайграў дома "Мінску" — 0:4.

Астатнія паядынкі тура прайшлі 4 і 5 ліпеня: "Днепр" (Магілёў) — "Шахцёр" (Салігорск) — 0:1, БАТЭ (Барысаў) — "Дынама" (Брэст) — 4:0, "Слуцк" — "Белшына" (Бабруйск) — 1:0, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) — "Нёман" (Гродна) — 1:0.

Становішча каманд: "Дынама" (Мн) — 38 ачкоў, БАТЭ — 37, "Нафтан" — 28, "Шахцёр" — 26, "Тарпеда-БелАЗ" — 25, "Гомель" — 23, "Мінск" — 19, "Нёман" — 19, "Слуцк" — 17, "Дынама" (Бр) — 13, "Белшына" — 10, "Днепр" — 10.

Наступны тур пройдзе 11—13 ліпеня: БАТЭ — "Тарпеда-БелАЗ", "Белшына" — "Дынама" (Мн), "Шахцёр" — "Нёман", "Мінск" — "Днепр", "Гомель" — "Нафтан", "Дынама" (Бр) — "Слуцк".

## Дзень нараджэння — сумнае свята

*Максім Мірны (32-е месца ў парным рэйтынгу) і Хао-Чын Чань (18) не змаглі выйграць Уімблдонскі тэнісны турнір у змяшаным разрадзе.*

6 ліпеня ў фінальным матчы "пасеяны" пад 14-м нумарам беларуска-тайваньскі дуэт з лікам 4:6, 2:6 прайграў 15-й пары турніру — сербу Ненаду Зімонджычу і аўстралійцы Саманце Стосур.

Мірны, якому ў нядзелю споўнілася 37 гадоў, выйграваў Уімблдонскі турнір у міксце ў 1998 годзе з амерыканкай Серэнай Уільямс.

## Клуб шукае футбалістаў

*Аўтсайдар першай футбольнай лігі пінская "Хваля" знайшла незвычайны спосаб пошуку футбалістаў.*

На сайце каманды размешчаная аб'ява, у якой гаворыцца, што шанц стаць прафесійным футбалістам атрымае кожны жадаючы. Для гэтага трэба выканаць шэраг умоў. У прыватнасці, неабходна здаць нарматывы — бег на 30 і 400 метраў, скачок у даўжыню, а таксама паказаць сябе ў кантрольным матчы.

Адбор пройдзе 8 і 9 ліпеня. Клуб выстаўляе да тых, хто жадае стаць футбалістам каманды, наступныя патрабаванні: узрост 20—25 гадоў, пастаянная практыка ў чэмпіянаце Пінска.

Прапанова атрымала жывы водгук на сайце клуба, у "Хвалю" сталі звяртацца футбалісты з Расіі, якія не могуць гуляць у першай лізе чэмпіянату Беларусі з-за забароны на легіянераў. Напісаў у клуб і малады варатар з Брэста: *"Ці можна прыехаць на прагляд у ваш клуб, нягледзячы на тое, што мне 17 гадоў?"*

## Грабоўскі пераязджае з Вашынгтона

*30-гадовы нападаючы хакейнай зборнай Беларусі, найлепшы хакеіст краіны 2009, 2011, 2013 і 2014 гадоў Міхаіл Грабоўскі падпісаў чатырохгадовы кантракт з клубам НХЛ "Нью-Ёрк Айлендэрс".*




Мінулы сезон Грабоўскі правёў у складзе іншага клуба НХЛ — "Вашынгтон Кэпітэлз" (58 гульняў, 13 шайб, 22 галявыя перадачы).

Заакіянская кар'ера хакеіста пачалася ў 2006 годзе з клуба "Манрэаль Канадыенс". У яго паслужным спісе таксама "Таронта Мэйпл Ліфс". За гэты час Грабоўскі правёў 425 матчаў (107 шайб, 145 галявых перадач), паведамляе БелаПАН.

ФУТБОЛ: ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ-2014

# На фінішы...

***Сёння на чэмпіянаце свету па футболе адбудзецца першы паўфінальны матч: зборная Бразіліі згуляе з камандай Германіі.***

Ужо зараз можна сказаць, што матч будзе інтрыгуючым. Хаця б таму, што яшчэ да чэмпіянату многія спецыялісты называлі бразільцаў фаварытамі першынства, але асцярожна дадавалі: у зборнай Бразіліі ёсць зорка Неймар, але не дай Бог ён атрымае траўму... І што тады?

Вось мы і пабачым, "што тады", бо дзе тонка, там і рвецца. Напэўна, сурочылі Неймара, які атрымаў сур'ёзную траўму ў матчы 1/4 фіналу супраць каманды Калумбіі. У аднаго з лепшых бамбардзіраў першынства — траўма пазваночніка, на матч з Германіяй ён не выйдзе дакладна. Да таго ж у складзе бразільцаў не згуляе супраць немцаў і яшчэ адзін топавы футбаліст Ціягу Сілва, які прапусціць гульню з-за атрыманых папярэджанняў.

Адным словам, паўфінал абяцае стаць суперцікавым, бо бразільскія балельшчыкі не даруюць сваёй камандзе паражэння ў любым складзе. Для Бразіліі гэта стане нацыянальнай трагедыяй, а футбалістам зборнай, як кажа расійскі каментатар Васіль Уткін, "лепш павесіцца". Але ж і каманда Германіі прыехала ў Бразілію не на карнавал. Моцная ва ўсіх лініях зборная, якую называюць "нямецкай машынай", здольная пусціць пад свой каток каго заўгодна. Ці ўдасца? Гэта іншае пытанне.

Што тычыцца другога паўфіналу (Аргенціна—Галандыя), які адбудзецца 9 ліпеня, то і тут няма пэўнага фаварыта. За аргенцінцаў гуляе суперзорка Месі, які здольны адзін здабыць для каманды перамогу. За галандцаў выступаюць Робен, які зараз знаходзіцца ў цудоўнай форме, і Робін Ван Персі. Да таго ж галоўны трэнер "аранжавых" Луі ван Гал — гэта проста неверагодны тактык, які ў патрэбны момант ведае, за якія лейцы пацягнуць. Дарэчы, на мундзіялях галандцы тройчы даходзілі да фіналу, але ніколі не выйгравалі чэмпіянат свету, таму пра матывацыю казаць нават і не будзем.

...А супрацьстаянне "Еўропа — Лацінская Амерыка" працягваецца. Лік пакуль роўны — 2:2.







## Матчы 1/4 фіналу

**4 ліпеня**

Бразілія — Калумбія — 2:1, Францыя — Германія — 0:1.

**5 ліпеня**

Аргенціна — Бельгія — 1:0, Галандыя — Коста-Рыка — 4:3 (па пенальці, асноўны і дадатковы час — 0:0).

**Алесь СІВЫ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Праваабаронцы заступіліся за футбаліста

Італьянскі Савет асацыяцый па абароне навакольнага асяроддзя і правоў чалавека і спажыўцоў падаў у суд на форварда зборнай Уругвая Суарэса за тое, што той укусіў абаронцу зборнай Італіі Джорджа К'яліні.

Падкрэсліваецца, што ні сам італьянскі футбаліст, ні Федэрацыя футбола Італіі да іску не маюць ніякага дачынення.

Зараз справа знаходзіцца на разглядзе, але яе лёс ужо практычна вядомы — італьянскі суд не можа разглядаць справу аб правапарушэннях супраць грамадзян, якія здзейснены за межамі краіны.

## «У Расіі футбалісты зарабляюць вельмі шмат грошай...»

Былы галоўны трэнер французскага "Асера" Гі Ру выказаўся аб праблемах расійскага футбола. На яго думку, "зборная Расіі аказалася вельмі маладой і нявопытнай".

*"Ад Расіі на ЧС-2014 выступалі толькі людзі са свайго першынства, і вопыту выступлення на вышэйшым міжнародным узроўні ў іх аказалася недастаткова,* — сказаў **Гі Ру**. — *Мне здаецца, у Расіі футбалісты зарабляюць вельмі шмат грошай. І гэта пазбаўляе іх матывацыі. Яны варацца самі ў сабе і не атрымліваюць таго еўрапейскага вопыту, які маглі б атрымаць у вядучых чэмпіянатах кантынента".*

## Новыя рэкорды зборнай Германіі

Зборная Германіі ўстанавіла рэкорд, калі выйшла ў паўфінал чэмпіянату свету чацвёрты раз запар.

Апошні раз нямецкай камандзе не ўдавалася выйсці ў паўфінал чэмпіянату свету ў 1988 годзе. Тады немцы прайгралі зборнай Харватыі ў чвэрцьфінале з буйным лікам 0:3.

## Футбол і секс

*Усе зборныя, у якіх была ўведзена забарона на секс падчас чэмпіянату свету па футболе, не змаглі выйсці нават у чвэрцьфінал турніру.*

Аб гэтым сведчыць даследаванне, праведзенае выданнем Quartz.

У ліку каманд, іграком якіх было забаронена займацца сексам, уваходзіла і Расія. Разам з расіянамі мундзіяль пакінулі таксама зборныя Мексікі, Чылі, Босніі і Герцагавіны, якія таксама далі "абет устрымання".

Сярод зборных, дзе секс дазволены, барацьбу ў турніры працягваюць Германія і Галандыя. У калонку каманд, аб палітыцы якіх у інтымных узаемаадносінах падчас турніру нічога не вядома, трапілі Аргенціна, Бельгія і Калумбія.



## Бразілія — на другім месцы па наведвальнасці футбольных матчаў

*Чэмпіянат, які зараз праходзіць у Бразіліі, пакуль займае другое месца па сярэдняй наведвальнасці за ўсю гісторыю турніру.*

Першае месца захоўвае сусветнае першынство, якое прайшло ў ЗША ў 1994 годзе.

Сярэдняя наведвальнасць на ЧС-2014 — 52.991 глядач. Сярэдняя наведвальнасць мундзіялю ў ЗША складала 68.991 глядач.

Увогуле, 60 матчаў на ЧС-2014 наведалі 3.165.693 аматары футбола.

## Месі адрэзалі пальцы

У Буэнас-Айрэсе невядомыя пашкодзілі статую нападаючага зборнай Аргенціны Ліянэля Месі.

Вандалы адрэзалі ў скульптуры пальцы, паведамляе Marca. Акрамя таго, таксама пацярпелі статуі ў мінулым вядомых футбалістаў Марадоны і Бацістуты.

Статуя Месі была ўстаноўлена за тыдзень да пачатку чэмпіянату ў адным з рэспектабельных раёнаў Буэнас-Айрэса.

ШАХМАТЫ

## Мемориальный конкурс составления шахматных задач «Якову Каменецкому — 100 лет»

Ветеран войны Яков Ефимович Каменецкий (1915—1991) в довоенные годы входил в число ведущих шахматистов Беларуси. Он также уделял много внимания шахматной композиции, в течение ряда лет возглавлял секцию композиции при федерации шахмат БССР. Юбилею Каменецкого посвящен конкурс составления двухходовых шахматных задач. Принять в нем участие приглашаются любители шахматной композиции Беларуси, которые после 2010 года не получали призов за шахматные задачи на международных конкурсах. На конкурс принимаются ранее не публиковавшиеся задачи-двухходовки с числом фигур не более 16, от каждого участника — не более трех задач. В конкурсе установлены призы, специальные призы для женщин и участника до 16 лет, а также почетные и похвальные отзывы (дипломы). Задачи следует высылать по адресу секретаря конкурса: Rybinczyk@yahoo.com до 1 октября 2014 года. Более подробные условия — на сайте "Брестские шахматы".

А сейчас предлагаем вниманию читателей двухходовую задачу Я.Каменецкого, с которой он выступил в командном первенстве СССР (1956—1957 гг.).

### Я.Каменецкий

**Белые:** Kph3, Фа5, Лс1, Сс3, Ch1, Ka3, Kb5 (7).

**Черные:** Kpc5, Лb3, Лc8, пп. a6, h4 (5).

**Мат в 2 хода.**

Свои ответы присылайте по адресу: **220030 Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная Воля", "Шахматы".**



## Победа Сергея Карякина

Завоевание Магнусом Карлсеном звания чемпиона мира по шахматам привело к резкому всплеску интересна к этой игре в Норвегии. Следствием стало проведение там второй год подряд гроссмейстерского супертурнира.

В этом году в турнире приняли участие сам чемпион мира Магнус Карлсен, экс-чемпионы мира Владимир Крамник (Россия) и Веселин Топалов (Болгария), обладатель второго в мире рейтинга Левон Аронян (Армения), российские гроссмейстеры Сергей Карякин, Александр Грищук, Петр Свидлер, а также Фабиано Каруана (Италия), Аниш Гири (Голландия), Симен Агдестейн (Норвегия).

Чемпион мира провел турнир весьма уверенно. Он оказался единственным, кто прошел всю дистанцию, не потерпев ни одного поражения. Набрав в 9 встречах 5,5 очка Карлсен, тем не менее, оказался лишь вторым. Его опередил ровесник чемпиона мира 23-летний россиянин Сергей Карякин — 6 очков. Третий приз выиграл Александр Грищук — 5 очков. По 4,5 очка набрали Ф.Каруана и В.Топалов, разделившие 4—5-е места. Неудачно выступил один из фаворитов Владимир Крамник. Проиграв три партии, он набрал 4 очка и разделил места с 6-го по 9-е с П.Свидлером, А.Гири и Л.Ароняном. Замкнул же турнирную таблицу С.Агдестейн — 3,5 очка.

# 10 основных продуктов — помощников для сердца

Наше сердце работает 24 часа в сутки, мы обязаны ему за каждый вдох и выдох. Самый важный орган не останавливается никогда! **Какие продукты для сердца помогут сохранить "символ любви" в целости и сохранности?**

1.Первое место в списке заслуженно занимает **рыба**. Это, несомненно, главный помощник в работе сердца. Красная рыба богата омега-3 жирными кислотами, снижающими риск сбоев сердечного ритма, и понижает уровень триглицеридов. В этом отношении особенно хороша семга. Не менее полезен тунец (только лучше брать филе или же консервы без масла). Кроме того, омега-3 жирные кислоты есть в скумбрии, сельди, озерной форели, сардинах и анчоусах. Необходимые жирные кислоты и витамины для сердца можно получить с витаминными комплексами.

2.**Орехи** (прежде всего грецкие, кедровые и миндаль) содержат аминокислоту аргинин, которая защищает кровеносные сосуды и оказывает массу других положительных эффектов. Употребление в пищу орехов несколько раз в неделю может снизить риск сердечного приступа на 30—50%. Добавим, что аргинин частично вырабатывается в организме человека, но нам часто его не хватает.

3.Не только **красное,** но и **белое вино** содержит полезные для сердца антиоксиданты. Всем известный ресвератрол также содержится в кожице всех сортов винограда. Понятно, что употребление алкогольного напитка должно быть умеренным, иначе негативные эффекты перевесят положительные. А лучше ешьте обычный **виноград**, ведь в нем также содержатся все те же полифенолы, а еще витамины для сердца.

4.Большую пользу для сердца и сосудов представляет **оливковое масло** первого холодного отжима — в нем много мононенасыщенных жиров. Отказавшись от сливочного масла в пользу оливкового, вы серьезно снизите уровень холестерина. Другие полезные вещества этого продукта — полифенолы — защищают кровеносные сосуды.

5.**Томаты** — отличное природное средство для улучшения сердечного ритма (при мерцательной аритмии, тахикардии, экстрасистолии), для предупреждения гипертонической болезни, ишемической болезни сердца. Как можно чаще есть помидоры рекомендуется людям с повышенной возбудимостью нервной системы (что, как правило, ведет к гипертонии). Главный козырь томата — антиоксидант ликопин, защищающий от атеросклероза. Это вещество отлично усваивается в компании с полезными жирами. Кстати, тепловая обработка незначительно увеличивает концентрацию ликопина в томатах, зато после упаривания нам проще съесть больше полезного продукта.

6.Если у вас нет аллергии на цитрусовые, ешьте **апельсины**. Эти яркие плоды содержат пектин — вещество, которое способствует выходу лишнего холестерина из организма. Кроме него в апельсинах большое количество калия, помогающего контролировать давление. Апельсины помогают сосудам работать лучше и снижают артериальное давление благодаря антиоксиданту гесперидину.

7.Листоваяа свекла, или так называемый **мангольд**. Этот "салат" богат калием и магнием, а также минералами, которые помогают контролировать давление. Клетчатка, витамины группы В и антиоксиданты, лютеин, зеаксантин — все эти составляющие неординарного листового салата являются отличными помощниками сердцу.

8. Защитить сердце от холестерина помогает **курага** — сушеные абрикосы. Эти сухофрукты богаты калием и природными антиоксидантами, помогающими защитить сердце и сосуды от свободных радикалов. Пара горстей кураги в день могут защитить человека и от повторного инфаркта.

9.Вы все еще не любите **овсянку**? Тогда просто научитесь ее готовить. Только не надо брать "готовые каши" с консервантами и обилием сахара, уж лучше приобрести всем известный "Геркулес" и мультиварку, которая может значительно облегчить процесс приготовления утреннего лакомства. В овсе и овсяных хлопьях много клетчатки, которая снижает риск развития сердечно-сосудистых заболеваний. Кроме того, овес содержит все те же флавоноиды и калий, питающий сердечную мышцу. Дополните полезное блюдо: подкиньте в кашу орехов, ягод или кураги.

10. И, наконец, пожалуй, самый приятный продукт нашего мини-рейтинга — **темный шоколад**. Он полезен при повышенном давлении, так как содержащиеся в нем флавоноиды расширяют кровеносные сосуды. Между тем без гипертонии риск смерти от сердечных заболеваний в два раза ниже, а риск инсульта и инфаркта уменьшается примерно на 20%. Любопытно, что на людей с нормальным давлением горький шоколад никак не влияет.

В заключение хочется отметить, что есть продукты, полезные для сердца, а есть и весьма вредные для него. **От чего стоит отказаться, если у вас уже есть проблемы с сердцем и сосудами?** Понятно, что полуфабрикаты, копчености, гамбургеры, колбасы и готовые соусы, острые и соленые блюда — вне закона. Стоит отказаться и от мяса с высоким содержанием животного жира, лучше переориентироваться на нежирную телятину, кролика, курицу и индейку, благо рецептов в интернете сейчас хоть отбавляй. Также лучше не нагружать пищеварительную систему свежей выпечкой. Из напитков людям, страдающим болезнями сердца, противопоказаны кофе, крепкий чай и... наваристые бульоны.

**Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс
(017) 3286871.
Тэл.рэкламнага
аддзела:
(017) 3286609,
3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 14052

**Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік
і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч
СЯРЭДЗІЧ**




**Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 7.07.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26500 экз. Заказ №2766.**